

# ЛЮБІМЫ НАРКОМ

*ПЯТРУСЬ БРОЎКА*

Як першы ваенны
пракоціцца гром
і клікне:
„—За зброю!“
любімы нарком,—

радзіма устане
уся у брані,
і выйдзе
свабоду сваю бараніць.

Фашыстаў размесці
знішчальным агнём
яе павядзе
легендарны нарком.

Праб‘ецца франтамі
наскрозь бранявік,
з-за кожнага дрэва
пакажацца штык,

і з неба ударыць
смяротным дажджом,
туды, куды скажа
любімы нарком.

Мы можам спакойна
за працаю жыць:
ён моцна на варце
радзімы стаіць.

*В. І. Ленін, І. В. Сталін і Л. М. Кагановіч на Ўсерасійскай канферэнцыі франтавых і тылавых ваенных арганізацый РСДРП (б), чэрвень, 1917 г.*

Рыс. П. Васільева.



# СЛАЎНЫ ЮБІЛЕЙ

23 лютага спаўняецца 20 год з дню заснавання слаўнай Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі.

Што было 20 год таму назад у нашай краіне?

Маладая савецкая рэспубліка была з усіх бакоў акружана ворагамі. Немцы, англічане, палякі, японцы і дзесяткі розных царскіх генералаў хацелі раздушыць савецкую ўладу, каб зноў пасадзіць на шыю рабочых і сялян цара, памешчыкаў і капіталістаў.

У адказ на гэта Савецкі ўрад стварае рэгулярную Чырвоную Армію. Чырвоная Армія пакрыла сябе няўміручай славай. Байцы Чырвонай Арміі ведалі, за што яны змагаюцца, і яны паказалі, як умеюць рабочыя і сяляне біць сваіх заклятых ворагаў. Усе замежныя і генеральскія белыя банды былі разгромлены.

Чырвонай Арміяй кіраваў сам таварыш Ленін і яго бліжэйшы паплечнік — таварыш Сталін.

На самыя небяспечныя франты таварыш Ленін пасылаў свайго лепшага вучня таварыша Сталіна. Дзе толькі ворагі пачыналі браць перавагу, туды ехаў таварыш Сталін. Ён умеў так арганізаваць і расставіць сілы, што ў многа раз мацнейшы вораг быў абавязкова разбіты.

Бясстрашныя і выдатныя палкаводцы Чырвонай Арміі таварышы Фрунзе, Варашылаў, Будзённы, Блюхер смела вялі байцоў на штурмы ворагаў і заўсёды перамагалі.

Мінула 20 год. Зараз Чырвоная Армія вырасла ў самую магутную армію ў свеце. Чырвоная Армія мае добра абучаных, верных справе Леніна—Сталіна байцоў, мае самае навейшае, лепшае ўзбраенне.

Разбітыя ў грамадзянскай вайне нямецкія, японскія, італьянскія, польскія і іншыя фашысты ўвесь час шчэрацъ свае зубы на нашу зямлю. І яны-б даўно напалі на нас, каб не баяліся Чырвонай Арміі.

Непераможная Чырвоная Армія пад кіраўніцтвам першага маршала таварыша Варашылава цвёрда стаіць на варце сваёй радзімы. У нас ёсць што абараняць, ёсць каму абараняць і ёсць чым абараняць.

Няхай жыве слаўная 20-я гадавіна Чырвонай Арміі!



*Чырвонагвардзейцы. 1917 г.*

Рыс. К. Максімава.



*Бліндзіраваны поезд, пабудаваны для Чырвонай Арміі рабочымі Пуцілаўскага завода. [illegible]8 г.*



*ЦЯПЕРАШНЯЯ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ. Парад часцей Чырвонай Арміі ў Маскве на Краснай плошчы.*



*ЦЯПЕРАШНЯЯ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ. Нацыянальная воінская часць на вуліцах Ташкента.*



*Маршал Совецкага Саюза С. М. Будзённы гутарыць з вучнем Віцяй Шабуневічам у час манеўраў Беларускай Ваеннай Акругі.*

## ВІНТОЎКІ ВОЗЬМЕМ НОВЫЯ

**В. МАЯКОЎСКІ**

Вінтоўкі возьмем новыя,
на штык сцяжкі!
І з песняй
у стралковыя
ідзем гурткі.
Раз,
два!
Усе
ў рад!
Ша-
гай
ат-
рад!
Калі
вайна-мяцеліцца
пачне шугаць,
павінны умець мы цэліцца
умець страляць.
Ша-
гай
хут-
чэй!
Цэль-
ся
спрыт-
ней!
Як толькі рушаць арміі
ў рашучы бой,
мы выйдзем
санітарамі
ў вайсковы строй.
Ра-
няць
каго,
ра-
туй
я-
го!
Бясшумнаю разведкаю
Ідзём цішком.
Пра ворага
разведаем
Вакол-кругом.
Паў-
зу
ўначы,
ма-
ім
па-
магчы.
Блішчаць
вінтоўкі новыя,
на іх—
сцяжкі.
Мы з песняй
у стралковыя
ідзем гурткі.
Раз,
два!
Усе
ў рад!
Ша-
гай,
ат-
рад!

# У Сарочым Розе



*Апавяданне В. Змітрэнкі*

*Малюнкі В. Ціхановіча*

У цяньку, пад густою, прыземістаю хвойкаю, на мяккім муражку ляжаў калгасны пастух Мікіта. Ляжаў і слухаў, як падпасак Сымонка чытаў яму кнігу пра дзеда Талаша і Мартына Рыля. Дужа любіў Мікіта слухаць, як чытаюць яму газету ці кнігу. Нездарма ён і ўзяў да сябе ў падпаскі піонера Сымонку,—хлапчук паслушны, а галоўнае чытае дзеду шмат, расказвае.

Недалёка ад пастухоў, каля сасновага бору, пасвілася калгаснае стада.

А як прыгожа тут навокал!

Луг, які чамусьці называюць Сарочым Рогам, з трох бакоў акружаны роўнаю сцяною рыжаствольных сосен. Густа-густа пакрыты ён жоўтазалацістымі кветачкамі, а калі дыхне цёплы, летні ветрык—захвалююцца тонканогія кветачкі і здаецца тады—залатое возера калышацца на сонцы. Паветра свежае, здаровае, напоенае пахамі сасны і кветак.

А песні птушыныя!

Прыгожа ў Сарочым Розе!

Сымонка скончыў чытаць.

— Добра пішуць у кнігах—праўду пішуць. Зразумела складаюць,—падумаўшы, праказаў дзед Мікіта і пачаў даставаць з кішэні сваю люльку.—Але-ж, зразумела і для нашага брата—непісьменнага чалавека. Та-ак. Абое змоўклі. Дзед пыхкаў люлькаю і думаў. Ён ніколі не гаварыў аб кнізе адразу пасля чытання, а крыху падумаўшы, успомніўшы ўсё тое, што ён чуў.

На гэты раз не ўдалося пагутарыць аб кнізе—неяк раптоўна надышла летняя навальніца. Нядаўна белыя хмаркі, як кавалачкі ваты, ціха плылі ў сінім небе, бязлітасна пякло сонца. А тут—на табе—згусціліся хмаркі, пачарнелі, засланілі сабою сонца, і як аддалёная музыка, пракаціўся гром.

— Вялікая будзе навальніца—надта пякло ўжо, як у гаршку варыла,—зірнуўшы на неба, праказаў Мікіта. Потым выбіўшы попел з люлькі і захаваўшы яе, стары падняўся на ногі і разам з Сымонкам пайшоў да кароў.

Гэта быў яшчэ дужы стары, гадоў пад шэсцьдзесят. Ішоў ён хутка, раскідваючы ў бакі доўгія ногі.

Завярнуўшы кароў, яны пайшлі ў свой шалаш.

Гром грымеў ужо смялей і мацней,—праз некалькі хвілін на траву і шырокія лісты кустоў упалі першыя буйныя кроплі.

— Стойце, дзедка,—раптам спыніўся Сымонка, адвярнуўшы ў бок галаву.—Чулі.

— Што?

— Стрэл у баку граніцы.

Дзед яшчэ некаторы час стаяў і слухаў, а потым, крануўшыся з месца, ціха праказаў:

— Старасць—не радасць, унучак,—і ўвайшоў у шалаш.

— А вось яшчэ! Бліжэй ужо!—зноў крыкнуў Сымонка.

Яны выбеглі з шалаша.

— Ого! Як з вядра лье. А ну, Сымонка, зірні, як каровы—ці не пайшлі куды?

Сымонка насунуў шапку і пабег у кусты. Замест кароў недалёка ад сябе хлапчук убачыў чалавека, які, сагнуўшыся, бег праз кусты... Сымонка вярнуўся да шалаша.

— Дзед, выйдзі сюды!—паклікаў ён.

— А што там?—і галава Мікіты высунулася з шалаша. У гэты час незнаёмы вынырнуў з кустоў, агледзеўся кругом і заўважыў людзей каля шалаша. Ён як-бы здрыгануўся, кінуў вачыма вакол і неахвотна пайшоў да Мікіты і Сымонкі.

— У-у-у, як разышоўся,—былі першыя словы незнаёмага.—Дзень добры вам!

Разам з пастухом і Сымонкам убег ён у шалаш.



— Здароў, добры чалавек,—толькі цяпер адказаў Мікіта і пачаў абціраць з твару буйныя кроплі вады.

— А чаго цябе носіць у такі нядобры час?

Зірнуўшы на Сымонку, які стаяў у самым кутку шалаша, незнаёмы адказаў:

— Пастухом я ў соўгасе, коней пасвіў... А яны пауцякалі. Вось і шукаю ўжо другі дзень. Знайшлі трое, а дваіх няма, як у ваду канулі...

— А ў якім гэта ты, міл чалавек, соўгасе пастухом?

— У „Загаллі“. Далекавата адсюль, за лесам.

— Ага...

Навальніца бушавала яшчэ з большай злосцю. Падхапіўся вецер. Глуха зашумеў стары бор, да зямлі гнуліся кусты. Гром разрываў паветра, як рэха адгуквалася зямля. З шалаша вецер сарваў галлё, дождж пачаў капаць часцей. Пастух з соўгаса „Загалле“ стаяў каля самага выхада. На ім была добрая, але паношаная шапка, выцвіўшы на сонцы пінжак і мяккія, лёгкія бацінкі. Пінжак з павырыванымі гузікамі надзімаўся на ветры, як парус і гатоў быў зляцець з гаспадара.

Дзед Мікіта і Сымонка пераглянуліся, а потым зноў перавялі свае погляды на незнаёмага. У гэты момант парывісты вецер падкінуў пастухоў пінжак, і яны ўбачылі за поясам рэвальвер, самы звычайны, новы, бліскучы...

Сухія дзедавы рукі заметна здрыгануліся, а хлопчык адчуў, як моцна забілася пад кашуляю яго сэрца.

Раптам маланка разрэзала неба, разам з ёю ўдар грому, прарэзлівы і моцны пракаціўся над імі.

Густы дождж пакрыў зямлю, вецер гнаў яго цэлымі хмарамі.

— Вось як каровы куды забягуць—прапалі мы, унучак. Выскач, пабач, пасля на сонейку абсушышся, — звярнуўся дзед да Сымонкі.

А той толькі, здавалася, і чакаў гэтага. Кіўнуўшы галавою, ён хутка выскачыў з шалаша...

Дзед Мікіта стараўся як мага больш затрымаць каля сябе незнаёмага, бо той не-

цярпліва паглядваў навокал і намерваўся ўжо ісці ў суседні калгас „шукаць коней“.

Яго мусіць трывожыла тое, што падпасак пайшоў да кароў і так доўга не вяртаецца назад. Дзед гэта бачыў.

— Такі ўжо хлапец непаслушны—бадзяецца недзе па лесе? Змокне ўвесь. А модзе каровы прапалі?—гаварыў разважліва стары.

Незнаёмы маўчаў. Ён па-ранейшаму стаяў каля выхаду.

— Няма куды табе, міл чалавек, спяшацца—калі коні ў гэтым калгасе, дык тут недалёка. Перастане дождж і пойдзеш, я дарогу прамую табе пакажу, сцежку праз балота, зусім блізка.

— Сцежку, кажаце?—ажывіўся незнаёмы.

— Але-ж. Вунь тудою яна ідзе—праз луг гэты, у лесе і далей балотам,—хлусіў дзед.—Луг гэты у нас Сарочым Рогам называецца, багаты луг—залатая трава.

„Пойдзе,—думаў дзед.—Чаму-ж так доўга Сымонкі няма? Няўжо не дабег?“

„А што, як не паспеюць?—трывожыла старога думка.—Пайду за ім, буду па дарозе галінкі ламаць — кірунак паказваць. Знойдуць—яны з сабакамі“.

Радзелі хмары. Спыняўся дождж.

Хутка незнаёмы вышаў з шалаша, аглянуўся навокал. За ім высунуўся Мікіта.

— Вось тудою ісці,—паказаў ён дрыжачым пальцам,—як скончыцца Сарочы Рог, то ўправа трымайся, там балота і сцежка тая будзе,—накіроўваў дзед незнаёмага ў самую дрыгву.

Надзьмуўся парусам незашпілены пінжак незнаёмага, трэпле яго вецер, і зноў бліснуў рэвальвер за поясам. Дзед хуценька перавёў погляд на твар яго і здрыгануўся, маргануў вачыма. Незнаёмы пільна глядзеў на яго, здагадаўшыся, што дзед убачыў рэвальвер і, мусіць, ужо ведае, хто ён такі. Зірнуўшы навокал, ён падышоў бліжэй да Мікіты. Новы, бліскучы рэвальвер апынуўся ў яго руках.

На момант усё сціхла. Стаяў нерухома чалавек з рэвальверам, а супраць яго—высокі збялелы дзед, увабраўшы ў плечы галаву.

І раптам тыграм кінуўся Мікіта на ворага. Кароткі, глухі стрэл зліўся з ударам грома, нешта моцна кальнула ў плячо.

Моцная дзедава рука ўхапіла страляўшага за горла,—той упаў, паспеўшы стрэліць яшчэ раз у паветра. Пачырванеў дзед, адкуль тая і сіла ўзялася,—вырваў рэвальвер з рук незнаёмага, і запусціў яго далей ад сябе.

— Стой, гад!—толькі цяпер пракрычаў Мікіта, сціскаючы шыю ворага. Але і вораг не быў слабы. Ён выкруціўся з-пад пастуха і стаў каленамі яму на грудзі, аблітыя крывёю.

Тупая боль рэзала рану, рукі нямелі, сіла пакідала старога.

І раптам зусім блізка забрахаў сабака. Незнаёмы спалохаўся, выпусціў Мікіту. У той-жа момант перад ім выраслі два пагранічнікі.

— А ну, ўставай!—крыкнуў пагранічнік на ворага.

Збоку, цяжка дыхаючы, стаяў Сымонка.

— Дзедка, што з вамі?

— Раніў гад гэты,—адказаў дзед, спрабуючы ўстаць на ногі.—Але нічога, папраўлюся. А бандыта гэтага я ўсё-ж не выпусціў. Дачакаўся вас.

Праяснялася.

Лёгкакрылыя шырокія хмаркі радзелі і хутка знікалі за гарызонтам.

Неўзабаве паказалася вясёлае і яснае сонейка, на свежай траве заблішчалі кропелькі расы, раскрываліся залатыя вяночкі кветак, усміхаючыся сонцу, заспявалі птушкі ў зялёным сасновым бары.

**в. Астрагляды**



# ПАРТЫЗАНСКАЯ ПЕСНЯ

*Я. Колас*

Эй, з-за лесу ды з-за гор
Сонца выплывае.
Зашумі ты, цёмны бор,
Пушча векавая!

Пойдзем, пойдзем ваяваць,
Долю, волю здабываць.

Расступіцеся, лясы,
Перад нашай сілай,
Няхай험 станнуць верасы
Панскаю магілай.
Будзем, будзем гнаць паноў,
Біць, як чортавых сыноў!

Эй, вядзі-ж ты нас у бой,
Камандзір удалы!
Абаронім край мы свой
Ад ліхой навалы.
Гайда, гайда-ж у паход
Нішчыць люты панскі зброд!

# ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

Шмат на небе зорак ясных,
Глянеш—вокам не злічыць...
Шмат дзён радасных і шчасных
Знаю я ў сваім жыцці,

Ды не знаў яшчэ такога:
У той дзень я першы раз
Бачыў Кліма дарагога—
Ён парад прымаў у нас.

На кані, як птах, імчаўся,
К кожнай часці пад'язджаў,
Проста, ветліва вітаўся,
З Першым Маем віншаваў.

У адказ „ура“ грымела,
Я таксама „ўра“ крычаў,
Нарасталі гукі смела,
Вецер іх удаль імчаў.

А пасля ўрачыстым маршам
Мы ішлі за радам рад.
Зоркім вокам слаўны маршал
Аглядаў увесь парад.

*Л. Круцілаў.*

# ВАРАШЫЛАЎ

Ішлі як адзін мы ў бойкі,
Вінтоўкі трымалі ў руках,
Мы біліся з ворагам смела,
Ішлі ў баявых мы радах.

Нас Варашылаў вёў упярод,
Вёў на франты у вялікі паход.
Займалі мы палацы буржуяў,
Ворагаў білі, крышылі.
Вёў нас на бітвы заўсёды
Любімы нарком Варашылаў.

**Гарык Вольскі (9 год)**



*М. ЛЕРМАНТАЎ*

# САСНА

На поўначы дзікай стаіць адзінокай
На голым узгорку сасна,
І дрэмле на ветры, і снегам сыпучым
Адзета, як рызай, яна.

І сніцца ўсё ёй, што ў пустыне далёкай,
Дзе сонца пячэ, як нідзе,
Адна між пяскоў, на узгорку пякучым,
Прыгожая пальма расце.

Пераклад *А. Я*



# КУЦЬКА

*Апавяданне Вс. ВАЛЬДЭ*

Мы стаялі тады ў Ленінградзе. Аднойчы ў выхадны дзень я вяртаўся па набярэжнай на карабель.

Гляджу: каля нашых сходняў сядзіць маленькі чорненькі сабачка. Падкурчыў ён пярэднюю лапку, азіраецца пужліва ў бакі і жаласна скогліць.

А сам увесь мокры, нібы толькі што з вады вылез.

„Напэўна,—падумаў я,—рэбяты яго выкупалі".

Падышоў да сабачкі і кажу:

— Годзе, Куцька, перастань скогліць: пагода гарачая, хутка абсохнеш!

Ды і пайшоў на карабель.

Азірнуўся на палубе: Куцька за мною драбязіць, ужо на сходні ўзабраўся. Дайшоў да сярэдзіны, спыніўся ў нерашучасці, косіцца на мяне: „Ну як, ці можна далей ісці, не спусціш за борт?"

Я паглядзеў на яго: сабачка худы, непрыглядны, левае вуха старчма стаіць, правае надарванае, матаецца, як памяты ласкут.

Шкада мне яго стала.

„Няхай,—думаю,—пажыве ў нас, хопіць на караблі месца для такой маляўкі".

Наш карабельны сабачка Яшка якраз тады ў „лятунах" лічыўся: сышоў на бераг ды і загуляў.

Пазваў я сабачку рукою.

— Ідзі, Куцька!—кажу.—Ідзі, не пакрыўдзім. Ты не глядзі, што мы ўсе здаровыя, мы ціхі народ!

З гэтага і пачаліся мае мытарствы. Ужо і сам быў не рад потым, што ўзяў Куцьку.

Нібы п'яўка прыстаў ён да мяне. Сядзеш, на калені скача, у нос лізнуць хоча. За абедам у міску маю сунецца. На бераг пайшоў пагуляць—за мною ўвязаўся. Такі прывязлівы сабачка, проста бяда.

Вадалазы ўжо жартуюць з мяне:

— Вось дык Іван Ермошын, бач, якога выжла набыў!

— Табе, Ермошын, варта цяпер на ланцужок яго пачапіць ды капялюш надзець—палічылі-б тады за знатнага чужаземца!

А мне не да смеху.

Мы тады спалі на свежым паветры: душна было ў кубрыку. Разаслаў я на палубе пасцель, залажыў пад падушку абмундыраванне, улёгся.

І толькі гэта я заплюшчыў вочы—чую, хтосьці мяне ў бок штурхае, падсунься крыху, бач, разлёгся!

Паглядзеў—Куцька. Носам, як парася, коўдру падымае.

— Пашоў вон!—крычу.—Прасціну запэцкаеш.

Нават вухам не зварухнуў. Зашыўся сабе пад коўдру, скруціўся клубочкам і сапе.

Выкінуў я яго вон.

І толькі лёг, гляджу—зноў ён каля мяне.

Проста ніякага сумлення ў сабакі няма!

Два разы я спрабаваў ад яго вызваліцца.

Перабяруся цішком на другое месца, накрыюся з галавою коўдраю і ляжу, ледзь дыхаю: можа памыліцца аднавухі, да каго-небудзь з вадалазаў прысуседзіцца.

І ўсё дарэмна,—нюхам знаходзіць мяне.

А правучыць яго рука не падымаецца. Каб гэта быў сабака большы, можа, выцяў-бы яго калі, а то—казюлька, глядзець няма на што. Крані адным пальцам, і духу яго не стане!

Так да самай зары і прамарнаваў я час з Куцькам.

На світанні перайшоў у кубрык, замкнуў за сабою дзверы і нібы п'яны заснуў.

* * *

Раніцаю мы выйшлі на баркасе шукаць у Няве карабельны якар.

Вясною ў аднаго мінаносца раскляпаўся якарны канат і якар з абрыўкам каната ўпаў у ваду. Трэці дзень шукалі мы яго ў Няве. Ці то месца няправільна паказалі нам, ці то ілам заплыў якар, толькі ніяк мы не маглі на яго трапіць.

Куцька ўсю раніцу цягаўся за мною, нібы баржа за буксірам. А калі мы адыйшлі ад барта карабля, гляджу: і ён на баркасе сядзіць. Пазіраграе на мяне адным вокам, нібы падміргвае: „Не бядуй, браток, зноў разам!“

„Добра,—думаю,—ліха тваёй галаве! Вось пад ваду ты за мною не палезеш. Хоць на дне ракі адпачну ад цябе“.

Я першым папрасіўся ісці на пошукі.

Узлажылі на мяне вадалазны касцюм, адзеў я галошы са свінцовымі падноскамі і спусціўся за борт, на першыя сходачкі трапа. Што тут сталася з Куцькам! Сабачка заскогліў, забегаў па палубе: як-жа гэта я ад яго адлучаюся!

— А што, аднавухі,—кажу яму,—сцяміў у чым тут справа?

Прыпыніўся на трапе, пакуль вадалазы мне груз пачапілі і шлём прыкруцілі, потым пайшоў пад ваду.

— Пішы, не забывай, Куцька!

* * *

Глыбіня была невялікая. Я пастаяў хвілін пяць зажмураны, каб вочы да цемры прывыклі, і падаўся па пясчаным дне.

Цячэнне, нібы сустрэчны вецер, валіць мяне з ног. Пахісніся крыху ў бок—і не мінеш скандалу: дагары галошамі, як корак, выскачыш наверх.

Асцярожна іду па грунце. Падаўся наперад і плячом рассоўваю ваду.

Дзе-ні-дзе якая-небудзь рыбка праслізне каля мяне, а больш нічога не відаць, толькі цёмная вада ды пясок пад нагамі.

Прайшоў я так сажняў восем — няма якара, нібы вадою яго сагнала!

Вярнуўся назад. І раптам штосьці бразнула ў мяне пад свінцовую падэшваю. Нагнуўся, раскапаў пясок—якарны канат!

А ў баку ад яго і сам якар ляжыць. Лапы чыгунныя ў пясок управіў.

— Вось дзе ты, галубок, схаваўся ад нас!

Падышоў гэта я да якара ды так і аслупянеў: страшыдла нейкае зверху плыве да мяне! Само вузкае, доўгае, лапы тоненькія, хвост як дубец, а морда вострая, як у сабачкі.

Вось-вось ускочыць на мяне.

Тут я шарахнуўся ў бок і не паспеў апамятацца, як падхапіла мяне цячэнне і вынесла з вады дагары нагамі.

Вадалазы выцягнулі мяне на палубу баркаса, знялі шлём.

— Што там такое з табою здарылася?—пытаюць.

— З якой гэта ты радасці куляешся?

Я і слова ім сказаць не магу. Чацверты год спускаюся пад ваду і хоць-бы раз калі з такім страшыдлам сустрэўся.





Урэшце ачухаўся крыху.

— Без нажа,—кажу,—браткі не спускайцеся: звер там чуць касцюм мне не парваў!

— Які там звер? Кракадзіл ці што?

— А пярун яго ведае!—і расказаў ім усё.

— А ну-ж,—кажуць вадалазы,—зірні на яго: ці не падобны ён, часам, на твайго кракадзіла?—і паказваюць мне пад ногі.

Паглядзеў я: сядзіць каля мяне мой Куцька. Ускудлачаны ўвесь, мокры, вада з яго так і цячэ на палубу.

— Што-ж вы, чэрці, не ўтрымалі сабачку?!—накінуўся я на вадалазаў.—Цяпер вось нанава якар давядзецца шукаць!

— А хто-ж ведаў,—кажуць.—Сядзеў спачатку спакойна, толькі скавытаў усё і раптам як скочыць за борт, дык мы і раты паразяўлялі.

— Трэба было загадзя сказаць, што ён у цябе здатны нырца даваць!

Скінуў я з сябе вадалазны касцюм і да канца работы, пакуль якар не знайшлі, прасядзеў у рубцы.

Куцька пачаў лашчыцца да мяне, але я вадалазным галошам шпурнуў на яго і ён ледзь уцёк з рубкі.

* * *

Уся каманда даведалася пра мае падводныя здарэнні.

Сыдзеш у кубрык—адразу вадалазы да мяне з пытаннямі:

— Ну, Ермошын, раскажы пра свой палёт, як гэта ў цябе там вышла?

— Цяпер,—кажуць,—Ермошын, табе варта пакінуць службу: з такім сабачкам не прападзеш!

— У цырку, у шкляным басейне будзеш з ім штукі розныя вытвараць: ён у ваду, а ты з вады!

— Добрыя грошы можна зарабіць!

Адышоўся ад іх на палубу—тое самае.

— Ермошын!—крычаць вадалазы.—Пазыч на дзянёк ганчака: на паляванне рыхтуемся, шчупакоў лавіць у Фінскім заліве!

І пайшло усё спачатку.

Спрабаваў я маўчаць, нічога не выходзіць!

Ды мала таго, што свае не даюць мне праходу, яшчэ з суседняга карабля прыбеглі чырвонафлотцы: раскажы ім пра неўскага кракадзіла!

Адразу-ж пасля вячэры я зволіўся на бераг. А сам сабе пастанавіў: вярнуцца назад без Куцькі. Іначай, і сапраўды хоць службу кідай!

Сабачку, вядома, і клікаць за сабою не даводзілася. Убачыў, што я к сходням іду, і зараз-жа збег на бераг.

Іду не завіхаючыся па набераржнай і думаю сабе, як-бы гэта мне дзе пакінуць яго.

Бачу злева прысады. У прысадах дзеці забаўляюцца. Заходжу я туды, расперазаў папружку і паставіў Куцьку на швартовы: адзін канец папружкі яму на шыю зашмаргнуў, а другі канец надзейным марскім вузлом прыкруціў да лаўкі.

Сеў я пасля гэтага на лаўку, выкурыў папяроску і—наўцекі ад Куцькі: цэлы квартал праляцеў без адпачынку.

Азірнуўся, крыху пачакаўшы—няма, не відаць сабачкі, не вырвацца яму цяпер—і пайшоў цішэй.

Падыходжу к караблю ды пасвістваю сабе пад нос.

Раптам чую: даганяе мяне нехта.

— Дзядзя марак, пачакайце: сабачку забыліся!

Тут мяне аж у пот кінула! Зірнуў назад: хлапчук да мяне бяжыць і Куцьку за сабою цягне на папружцы. Засапліся абодва, у хлапчука шчокі гарадь, у Куцькі языкываліўся.

Падбеглі да мяне, хлапчук сунуў мне ў рукі папружку.

— Я-ж бы,—кажа,—раней цябе дагнаў, я шыбка бегаю, але вось папружку ніяк развязаць не мог, зубамі цягнуў!

— Дзякую, хлапчанё, — адказваю. — Дзякую, удружыў!

І так зірнуў на яго, што хлапчук ад мяне назад падаўся. Адразу знік як дым.

Слабасць ахапіла мяне, нібы я цэлыя суткі пад вадою працаваў. У вачах аж мурашкі забегалі.

Зняў я з Куцькі папружку і пайшоў па гранітнай лесніцы да самай вады. Сяджу, адпачываю.

— Пудзіла ты аднавухае! — кажу Куцьку. — І чаго ты прычапіўся да мяне? Хіба ты думаеш, што я цябе люблю?

А Куцьку і гора мала: лёг каля маіх ног і толькі зрэдку паглядвае на мяне: ці тут я, ці не ўцёк зноў ад яго?

У ваду сапхнуць сабачку—выплыве: што яму вада! Праз прахадны двор уцячы—знойдзе аднавухі. Хіба толькі замкнуць яго ў тэлефонную будку ды паперку павесіць: „Тэлефон не працуе“.

І раптам чую крычыць нехта: „Прынцэса! Прынцэса!“—Я аж скалануўся.

Бяжыць да мяне насустрач нейкі старэнькі. Галошы ў яго на босую ногу, чорны пінжак амаль па самыя калені, а на галаве рыжы капялюш з загнутымі краямі.

Ляціць старэнькі ўніз па лесніцы, шлёпае галошамі і выкрыквае на-хаду тоненькім дрыжачым галаском:

— Прынцэса! Прынцэсачка, карміліца мая!

Куцька з усіх ног кінуўся да яго. Скочыў зразгону к старому на рукі, вішчыць, яхкае, увесь твар яму аблізаў!

А ён яго ў нос цалуе бесперастанку.



— Злы сабачка!— прыгаварвае.—Нягодны сабачка! Не шкадуеш мяне, кінуў свайго дзядулю! Я-ж цябе па ўсім горадзе шукаў!

На набераэкнай людзі сабраліся:

— Што за здарэнне? Утапіўся хто, ці што?

Урэшце пакінулі яны абнімацца. Старэнькі падыйшоў да мяне, шаргануў галошамі.

— Грамадзянін марак,—кажа ён,—гэта сабачка мой! Не засмучайцеся, але я павінен яго ў вас забраць.

— Калі ласка, бярыце!—адказваю.—Пра што-ж тут гаварыць!

Я бачу: сабачка без гаспадара, вось я і даў яму прытулак.

Старэнькі кінуўся да мяне руку цалаваць.

— Ад шчырага сэрца вам удзячны! Ад шчырага сэрца! Ды ён-жа кармілец мой, на хлеб мне зарабляе!

Старэнькі маленькаю хустачкаю змахнуў слязу.

— Грамадзянін марак!—сказаў ён, прыклаўшы руку да грудзей.—Маё сэрца ўжо слабае, але яшчэ можа цаніць благародныя ўчынкі. Першае-ж шчанятка ад гэтага сабачкі я падарую вам!

Я ад яго да самай вады падаўся.

— Не,—кажу,—пакіньце гэтую справу! І не думайце наконт шчаняткі! Вы лепш раскажыце мне, як гэта ён вам на хлеб зарабляе: праз галаву, ці што, куляецца?

Старэнькі хітра ўсміхнуўся:

— Калі ласка!

І павярнуўся да набераэкнай.

— Грамадзяне і грамадзянкі!—крыкнуў ён, пачырванеўшы ад натугі.—Перад вамі дзіўны сабачка! Я прашу ў вас хвілінку ўвагі!

Усе, хто гуляў, шуганулі да нас цэлым натоўпам.

Старэнькі выняў з пад крыса більярдны шарык з слановай касці, пакруціў яго над галавою, каб усе бачылі, і павярнуўся да Куцькі:

— Прынцэса, прынясіце!—загадаў ён.

І шпурнуў шарык у ваду.

Куцька паімчаўся следам за ім. Ён спрытна скочыў у ваду і праз некалькі секунд ужо стаяў перад старым з белым шарыкам у зубах.

Усе, хто тут быў, запляскалі ў ладкі.

Старэнькі схаваў шарык і падаў Куцьку ў зубы бляшаную скрыначку.

— Пайдзіце, Прынцэса, і папрасіце грамадзян заплаціць вам за работу!

Куцька пачаў бегаць паміж натоўпу. У скрыначку кідаліся манеты.

— Бачылі, грамадзянін марак?—запытаў мяне старэнькі.

— Так,—кажу,—незвычайны ў вас сабачка. Я і раней заўважаў, што ён здатны да вадалазнай справы...

Куцька падышоў да мяне. Ён прысеў на заднія лапкі і, нават не зірнуўшы на мяне, паднёс мне скрыначку.

Я выняў з кішэні кашалёк і ўсё, што ў ім было,—сорак адну капейку—высыпаў Куцьку ў скрыначку.

# ЗІМОЙ

Я. ЖУРБА

Люблю я калгас наш
Зімовай парой
Як ззяе дзень ясны
Дзівоснай красой.

Тут снег на палянах
Блішчыць весялей,
А шчокі ірдзеюць
Ад кветак ярчэй.

Вось цягнуцца з лесу
З дрывамі вазы;
Па гладзі блішчастай
Скрыпяць палазы.

На санках, лядзянках—
Грамадка дзяцей.
Іх радасць сягоння
За сонца святлей.

А вунь і на лыжах
Імчацца хлапцы;
Іх след на палянах
Ад сонца блішчыць.

Пад снежнаю коўдрай
Спяць руні палёў,
Што ўвесну купчаста
Узнімуцца зноў.




# ЦЫГАН і ЗМЕЙ

*(НАРОДНАЯ КАЗКА)*

Калісьці даўно, у адну краіну прыляцеў страшэнны Змей. Выкапаў ён сабе сярод лесу ў гары глыбокую нару і лёг адпачываць. Ці доўга ён адпачываў, ці мала, ніхто не памятае, але аднаго разу ён устаў і моцна закрычаў, каб усе чулі:

— Гэй, людзі,—мужыкі і кабеткі, старыя і падлеткі, нясіце мне кожны дзень даніну: хто карову, хто каня, хто авечку, а хто свініну! Хто прынясе, той жыць будзе, а хто не, таго Змей праглыне!

Перапалохаліся людзі і пачалі насіць Змею апошняе сваё дабро. Але скора ў людзей нічога не стала, і тады Змей пачаў хапаць і жэрці людзей.

Людзі хадзілі як непрытомныя, галасілі, ратунку прасілі і не ведалі, як ім вызваліцца ад лютага Змея.

І вось якраз у гэты самы час прыехаў туды цыган. Бачыць ён, што людзі ходзяць сумныя і пытае іх, што з імі здарылася. Людзі пачалі скардзіцца цыгану і прасіць, каб даў ім раду, што рабіць.

— Супакойцеся, людзі, не плачце,—кажа цыган,—я паспрабую вас выратаваць.

Узяў цыган у рукі тоўстую даўбешку і паехаў на тое месца, дзе жыў Змей.

Убачыў яго Змей, вытрашчыў зялёныя вочы ды кажа:

— Уцякай, цыган, пакуль не позна, а то як дыхну, ды як свісну, дык на нагах не ўстаіш, за тры мілі адляціш.

Усміхнуўся цыган ды кажа яму:

— Не хваліся, пудзіла ты старое, не страш мяне, бо я не такіх бачыў. Мы яшчэ паглядзім, хто з нас мацней засвішча. Ну, свішчы!

Засвістаў Змей, ды так моцна, што аж лісце з дрэў пасыпалася, а цыган на калені прыпаў. Устаў цыган ды кажа:

— Э, глупства! Хіба так свішчуць? Гэта-ж не людскі смех. Давай вось хіба я свісну, толькі ты завяжы сабе вочы, а то наверх павылазяць.

Завязаў Змей вочы хусткаю, а цыган падышоў ды так свіснуў яму па твары даўбешкаю, што ў Змея з вачэй аж іскры пасыпаліся.

Зароў Змей на ўвесь лес, аж дрэвы пахіснуліся, ды кажа цыгану:

— Ну і сілач-жа ты! І адкуль ты такі ўзяўся? Няўжо ты за мяне дужэйшы? Давай-жа цяпер яшчэ паспрабуем, хто з нас лепш камень расцісне.

Схапіў Змей камень пудоў сто, сціснуў яго паміж лап, ды так моцна, што пыл слупам узняўся.

— А ну, паспрабуй ты так сціснуць,—кажа Змей.

Цыган усміхнуўся ды кажа:

— Нічога дзіўнага тут няма, вось ты сцісні так, каб з каменя вада палілася.

Развязаў цыган торбу, выняў адтуль сыр і сціснуў яго так, што сыроватка палілася.

Спалохаўся Змей, убачыўшы гэта. Цяпер ён упэўніўся, што цыган дужэйшы за яго. Вось ён і пытае:

— Чаго ты хочаш ад мяне? Прасі ў мяне ўсё, што табе трэба.

— Нічога мне не трэба,—сказаў цыган,— толькі я хацеў-бы, каб ты са мною трохі пажыў.

— Добра,—сказаў Змей.

Селі яны на воз і паехалі. Едуць яны ды едуць і захацелася Змею есці.

— Пайдзі,—кажа ён цыгану,—і злаві мне вала, трохі перакусім.

Пайшоў цыган у лес і пачаў драць лыкі. Чакаў Змей цыгана, чакаў і ўрэшце пайшоў сам да цыгана. Прыходзіць і пытае:

— Што ты тут так доўга робіш?

— Лыкі дзяру,—адказвае цыган,—хачу навіць вяровак і злавіць на абед пяць валоў.

— О-го,—кажа Змей,—дык гэта табе так многа трэба?

— А што-ж ты сабе думаў,—адказаў цыган,—я адзін з'ем за раз пяць валоў, а як быў маладзейшы, дык з'ядаў па дзесяць. Ці-ж варта займацца з адным валом?

— Ну,—кажа Змей,—мне няма часу чакаць, пакуль ты будзеш валоў лавіць, паедзем лепш далей.

Селі яны на воз і паехалі.

Едуць, аж бачаць, валы на поплаве пасуцца. Схапіў Змей вала за хіб, задушыў ды кажа цыгану:

— Пайдзі ты ў лес і прынясі ахапак дроў, будзем вала смажыць.

Пайшоў цыган у лес, сеў пад дубам і сядзіць сабе, люльку пакурвае.

Чакаў, чакаў Змей і не вытрымаў. Прыходзіць у лес да цыгана і пытае ў яго:

— Што ты так доўга тут робіш?

— А вось хачу дубоў з дзесятак прынесці, ды выбіраю, якія таўсцейшыя.

— Хопіць з нас і аднаго,—сказаў Змей і вырваў адным махам самы высокі дуб у пяць абхватаў.

Сасмажыў Змей вала і запрашае цыгана есці.

— Еш сам,—кажа цыган,—а я ўжо дома падсілкуюся, бо няма чаго тут займацца з адным валом, гэта мне на адзін раз укусіць.

З'еў Змей вала, аблізаў кіпцюры, сеў да цыгана на воз і паехалі.

Пад'язджаюць яны да табара, дзе знаходзілася цыганова сям'я. Убачылі дзеці яшчэ здалёк, што бацька едзе, і пачалі крычаць:

— Тата едзе! Тата едзе!

А Змей не дачуў, ды пытае:

— Чаго гэта там дзеці крычаць?

— А гэта яны ўбачылі, што ты едзеш і хочуць цябе з'есці,—сказаў цыган.

Спалохаўся Змей, саскочыў з воза ды наўцекі, толькі і бачылі яго.

З таго часу Змей ніколі больш не прылятаў у тую краіну і людзі вызваліліся ад яго назаўсёды.

Запісала К. Гудзіменка.
Літпраўка Я. Герасімовіча.






Верш **А. Крота**

У адной прасторнай,
Чыстай, светлай школе
Вучыцца ударна
Акцябронак Коля.

Кожны дзень у школе
Піша ён, рысуе,
Дома акуратна
Урокі рыхтуе.

Часта на кватэры
Ён сяброў збірае—
Пра звяроў, пра птушак
Ім апавядае.

„Лётчыкам я буду,—
Кажа часта Коля,—
Паімчуся к хмарам
Над шырокім полем,

Закружуся птушкай
Над сваёю хаткай—
Атрымай ад сына
Прывітанне матка!“

## СМЕЛЫ АКЦЯБРОНАК

Школьнікі хутара Бабры (Комсамольскі раён, Сталінградскай вобласці) гулялі каля возера. Возера толькі што замерзла, і лёд на ім быў зусім тонкі. Нехта з рэбят кінуў на лёд шар, і ён пакаціўся на сярэдзіну возера.

13-гадовы Федзя Насаеў пабег за шарам.

Раптам лёд трэснуў, і хлопчык стаў апускацца ў ледзяную ваду.

Недалёка катаўся на каньках семігадовы Паўлік Вераб'ёў. Ён пачуў крыкі і пабег на дапамогу.

Тонкі лёд пачаў ламацца нават пад нагамі лёгкага маленькага Паўліка. Але Паўлік не спалохаўся. Ён вярнуўся на бераг, знайшоў доўгую жэрдку і папоўз з ёю па ільду. Лёд пачаў асядаць, на яго паверхні выступіла вада, але Паўлік усё поўз далей. Вось ён падпоўз зусім блізка, падаў Федзі жэрдку і выцягнуў яго з вады.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ.
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЛЮТЫ 1938 г. № 2.

ЦАНА 30 кап.

## ЗАГАДКІ

1.

Чорны воран,
Ды не птах,
Хоць з крыллямі,
Ды не сокал.
Шэсць ног мае,
Зямлю капае.

2.

Стаіць Рыгор
Паміж гор,
Палкаю падпёршыся,
Шапкаю пакрыўшыся.

3.

Не разбіўшы гаршчок,
Не будзеш есці кашкі.

4.

Тонкі, доўгі,
А ўпадзе,
Дык з травы не відаць.

5

Крыкнуў вол
На сто сёл,
На сто печак,
На сто рэчак,
На сто гарадоў.

6

Нахмурыцца, насупіцца,
У слёзы ўдарыцца,—
Нічога не застанецца.

Адгадкі: *жук, грыб, арэх, дождж, гром, хмара.*

## Загадачны малюнак.



*Дзе падзеліся яшчэ два лыжнікі? Знайдзіце іх на гэтым малюнку.*

## ЖАРТЫ.

1

— Навошта ты ўзяў у Косціка трубу, ты-ж не ўмееш іграць?

— Каб адпачыць крыху ад яго музыкі.

2

**Міліцыянер.** Ты згубіўся, хлопчык?

**Хлопчык.** Не, гэта мая мама згубілася.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ
Друкарня імя Сталіна. 20.000 экз. Зак. № 3150. Уп. Галоўліта № 4138.